# Ці пачнецца вайсковая апэрацыя ў Іраку?


http://navinki.port5.com

# НАВІНКІ

13 - 20 сакавіка 2002 №4(53) Кошт свабодны





Працяг тэмы на стар. 4-5




## NATO рыхтуецца да інтэрвэнцыі?

стар.3

## Севярынец і ягоны гарэм




Сапраўдны пэрфоманс нарэшце адкалоў П.Севярынец. 11 сакавіка (паўгады з дня тэракту ў Нью-Ёрку) разам са сьвітай з 11 дзяўчынак з кветкамі ён прытусаваў да пасольства ЗША ў Менску. Усклаўшы 11 кветак (няцотнае – значыць сьвята), МФ здорава напалохаў супрацоўнікаў пасольства.

## У Бабруйску моляцца ў басэйне

У горадзе пачаўся працэс закрыцьця гарадзкога басэйну. Будынак басэйну плянуецца перадаць праваслаўнай царкве. Прычына гэтага тое, што да сярэдзіны 60-х гадоў мінулага стагодзьдзя ў будынку знаходзілася царква. Зь нядаўняга часу ў фае басэйну былі вывешаныя іконы і там жа вядзецца пастаяннае «дзяжурства» праваслаўных вернікаў. Магчымае закрыцьцё басэйну стала прычынай незадаволенасьці жыхароў гораду. Пад пагрозай беспрацоўя апынуліся трэнэры і пэрсанал басэйну.




**Прыгоды бравага міратворца Швэйка падчас гуманітарнай апэрацыі ў Іраку**

на стар.8


Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Падпісны індэкс **63439**. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: navinki@ring.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 12.03.2002г., а 00.01. Тыраж 4000 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у друкарні ТДА «Знаменіе», г. Менск, вул. Кальварыйская, 24. Заказ № 286

## Навінкі ў тЭстах

### Ці ў курсе вы апошніх падзеяў?

**1. За што пракуратура РБ вынесла папярэджаньне *Нашай Ніве*?**
А) За публікацыю матэрыялаў порнаграфічнага зьместу
Б) За публікацыю зьвестак ад імя незарэгістраваных арганізацыяў
В) За памылковы пераклад тэлепраграмы

**2. Хто пераабраны на пасаду старшыні Беларускага саюзу кампазітараў шосты раз запар?**
А) Ігар Лучанок
Б) Эдуард Ханок
В) Сяргей Міхалок

**3. Якому амэрыканскаму выданьню даў інтэрвію А.Лукашэнка?**
А) *Wall Street Journal*
Б) *PLAYBOY*
В) *Forum Lambda*

**4. Які падарунак атрымала кожная жанчына-кіраўнік калгаса вобласьці 8 сакавіка?**
А) Ганаровую грамату і трактар МТЗ
Б) Вібратар
В) Пуцёўку ў Турцыю

**5. Як называецца фільм, зьняты на замову Б.Беразоўскага, у якім ён абвінавачвае ФСБ у арганізацыі выбухаў жылых дамоў у 1999?**
А) Случай з пацаном
Б) Тэрмінатар-3
В) «Покушение на Россию»

**6. Якая прычына чарговай амністыі, што прапанавала МУС Палаце Прадстаўнікоў РБ?**
А) Вязьні выправіліся й больш ня будуць красьці й забіваць
Б) Не хапае сродкаў на іх утрыманьне
В) Правядзеньня амністыі патрабуюць крымінальныя аўтарытэты

**7. Чаму Расея апынулася ў сьпісе магчымых мішэняў ядзерных удараў Пэнтагону?**
А) Бо расейцы надта залупаліся на прайшоўшай алімпіядзе
Б) Даніна традыцыі
В) Гэта самая вялікая мішэнь на мапе сьвету

**8. Хто праводзіў сьвяточную канфэрэнцыю 8-9 сакавіка ў Менску?**
А) Воіны-інтэрнацыяналісты
Б) Хатнія гаспадыні
В) Лесбіянкі

**9. Якую пэнсію атрымоўвае былы кіраўнік краіны С.Шушкевіч?**
А) 100 абяцаных прэзыдэнтам баксаў
Б) Каля 2 даляраў
В) Скрыня цьвікоў штомесяц

**10. На якую тэму Зянон Пазьняк прачытаў лекцыю ў Карлавым Унівэрсытэце ў Празе?**
А) Беларускі тэатар
Б) Праблемы абароны Курапатаў
В) Як атрымаць грын-карту ў ЗША

**11. Які амэрыканскі прадукт забаронены да ўвозу ў Расею?**
А) Ножкі Буша
Б) Крылкі Буша
В) Яйкі Буша

**12. Які расейскі палітычны лідэр днямі прыбывае ў Беларусь з афіцыйным візытам?**
А) Старшыня думскай фракцыі ЛДПР Мітрафанаў
Б) Прэм'ер-міністар Касьянаў
В) Лідэр КПРФ Зюганаў

**13. Які прысуд вынес суд сыну былога прэм'ер-міністра РБ М.Чыгіра?**
А) Штраф у памеры 4 мінімалак
Б) 10 бізуноў па жопе
В) 7 гадоў пазбаўленьня волі

Правільныя адказы: 1-Б, 2-А, 3-А, 4-А, 5-В, 6-Б, 7-Б, 8-В, 9-Б 10-А, 11-А, 12-Б

# Чарнобыльскі турызм

*Радыяактыўна забруджаная тэрыторыя можа ператварыцца ў сапраўдную Мэку для аматараў экстрэмальных забаваў.*

Згледзішча турыстычнага бізнэсу нашай краіне ня надта пашанцавала. У нас няма Калізею ці вежы Эйфэля. Мы ня можам зазываць турыстаў пірамідамі. У нас няма нават аніводнага марскога курорту. Але на днях браты-ўкраінцы адкрылі нам вочы. Мы можам зарабляць на тым, што яшчэ ўчора лічылася пустэчай – Чарнобыльская зона.

Новае адкрыцьцё зьдзівіла нават самых сьмелых. Ва Ўкраіне Чарнобыльшчына рэальна ператвараецца ў прыбытковую турыстычную зону. Уявіце сабе, аднадзённы тур у Прыпяць на дваіх каштуе 250 баксаў, што раўняецца кошту аднадзённага адпачынку на Канарах! Турыстам прапануюць наступныя крутагляды: прагулку па Рудым лесе з радыяцыйным фонам тысяча мікрарэнген у гадзіну, наведваньне «мёртвага гораду» Прыпяць, і напрыканцы – фотаздымак на фоне саркафагу.




Бацьку таксама ня варта спаць у шапку і разгарнуць праграму па заахвочваньні радыяцыйнага турызму, пакуль рынак канчаткова не захапілі ўкраінскія канкурэнты. Ну, напрыклад, замест аднаго «мёртвага» гораду мы прапануем некалькі дзясяткаў вёсак. Там час ад часу яшчэ можна сустрэць людзей, што па просьбе экскурсіі могуць на вачах у іншаземцаў прыгатаваць боршч з прадуктаў, агульная радыяактыўнасьць якіх перавышае сьмяротныя нормы. Акрамя гэтага вельмі цікавым можа падацца для замежных экскурсіяў паляваньне на зьвяроў-мутантаў. Ролю зьвяроў, калі ў прыродзе такіх ня знойдзецца, могуць выконваць беспрацоўныя ці служачыя альтэрнатыўнай службы. Дарэчы, можна абвесьціць конкурс па распрацоўцы праграмы сафары. Калі народу правільна растлумачыць стратэгічную задачу, мне падаецца, што дапаможнікаў знойдзецца ня менш чым на напісаньне гімну. І праблема, за якія шышы праводзіць вясновы сеў, адпадзе сама сабой ●

## РэфОрмы

### Мабілы для беспрацоўных

Рынкавыя перамены, якія ўсё глыбей пранікаюць у палітыку кіраўніцтва нашай краіны, накладаюць усё большы адбітак на ўсю інфраструктуру беларускага грамадзтва. Першай ластаўкай курсу прыватызацыі, што апошнім часам прыглянуўся прэзыдэнту, стаў рост звальненьняў. Каб скарочаныя не бадзяліся па падваротнях і базарах, пачынаюць сваю працу г.зв. мабільныя пункты рэгістрацыі беспрацоўных. Перш за ўсё яны будуць разьмяшчацца на прадпрыемствах, якія «балансуюць на мяжы банкруцтва». Цяпер адразу пасьля звальненьня не адыходзячы ад касы можна будзе атрымаць пасьведчаньне беспрацоўнага. Гэта сапраўды гуманная ініцыятыва. Сьледам за падобнымі пунктамі лягічна прадбачыць зьяўленьне мабільных моргаў для тых жа беспрацоўных, якія «балансуюць на мяжы галоднай сьмерці».

# Гаспадар з-пад Горадні

## Маркевіч можа скончыць сваю кар'еру на шыбеніцы

Пяці гадоў, што сьвецяць рэдактару газэты *Пагоня* Міколу Маркевічу за абразу прэзыдэнта, для пакутніка дэмакратыі абразьліва малавата. Каб мець магчымасьць накруціць большы тэрмін і, адпаведна, крымінальна-дэмакратычны аўтарытэт, неўтаймавальны рэдактар ужо падаў дакумэнты на рэгістрацыю новай газэты пад назвай... *Мужыцкая Праўда.* Тлумачачы свае амбіцыі, у інтэрвію *Нашай Свабодзе* (№26 ад 6.03.2002) Маркевіч заявіў, што **«тое, што адбываецца сёньня, тое што робіць гэты ўрад, які паставіў на мэце зьнішчыць усё нацыянальнае, абсалютна ідэнтычна тым часам і тым умовам, у якіх дзейнічаў Кастусь Каліноўскі»**... Як кажуць, no comments. Відаць, менш чым сьмяротным пакараньнем праз павешаньне Маркевіч не задаволіцца. Апошняй жа газэтай пад ягонай рэдакцыяй будзе першы й апошні нумар *Ліста з-пад шыбеніцы* ●




# Дэпутаты-шахматысты




Як паведамляе БелаПАН, у канцы сакавіка ў Менску пройдзе шахматны матч паміж дэпутатамі Дзяржаўнай Думы Расеі і Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі. У беларускую каманду ўжо запісаліся 15 дэпутатаў, але ж удзельнікамі матчу стануць толькі шасьцёра. Іхныя прозьвішчы стануць вядомымі пасьля адборачнага турніру ў Палаце. Не вядома, на які інтарэс будуць гуляць парлямэнтары, але каб не атрымаць паразу, лепш рабіць спаборніцтвы ў тым відзе спорту, у якім яны дакладна мацнейшыя. Напрыклад, паддаўкі, «Чапаеў», правесьці чэмпіянат у карты па падкідным дурні альбо, на худы канец, на паджопнікі ●

## Немцы застануцца без крыжоў

Партыя камуністаў беларуская зьвярнулася да грамадзкасьці з заявай не дапусьціць устанаўленьня памятных знакаў або крыжоў у месцах масавага пахаваньня нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Замест гэтага родзічам фрыцаў прапануецца раскапаць магілы, вывезьці іхныя косткі ў Нямеччыну і там перазахаваць. Парадокс аднак: перад тым, як не дапускаць, трэба спачатку гэтыя самыя «месцы масавых пахаваньняў» вызначыць і памеціць адпаведнымі забароннымі знакамі. Вось вам і помнікі.




## БТ-2 замест ОРТ

Нарэшце збылося. Падпісаны ўказ аб стварэньні другога нацыянальнага тэлеканалу. У маі пачнецца яго вяшчаньне на частотах грамадзкага расейскага тэлебачаньня. Прычым цікава, што замена ОРТ новым дзецішчам Р.Кісяля будзе праходзіць паступова, і спачатку замяняцца будуць не інфармацыйныя праграмы, як гэта звычайна робіцца (узяць, напрыклад, тое ж СТВ і REN-tv), а забаўляльныя. Застаецца толькі здагадвацца, як будуць выглядаць новыя беларускія шоў, калі цяперашняе БТ-1 па-сутнасьці й ёсьць калька зь вядучых расейскіх каналаў.






# У турмах адлучаюць сьвятло




Цудоўны падарунак падрыхтавала *Народная Газета* уркам напярэдадні прафэсійнага сьвята міліцыі. На старонках *НГ* нехта Д.Валодзін разгарнуў дыскусію наконт таго, вырубаць ці не сьвятло на прадпрыемствах, якія маюць даўгі па рахунках. У прыпадку рынкавай эпілепсіі ён заклікае не шкадаваць бюджэтнікаў і адключаць ад сьвятла нават тыя канторы, якія лічацца ў пэўным сэнсе «недатыкальнымі»: КДБ, МУС, турмы і г.д. Гэта, на думку Валодзіна, дыктуецца элемэнтарным гаспадарчым разьлікам і ня ім заведзенай звычкай плаціць за тое, што было спажытае або купленае. Што ж, думка, вартая ўвагі. Мы ж ад сябе дадамо: сыходзячы зь меркаваньняў таго ж самага гаспадарчага разьліку, за неаплату камунальных запазычанасьцяў турмы можна было б увогуле пазачыняць, а вязьняў выселіць як жыльцоў-неплацельшчыкаў. А калі так, то нашто лавіць гэтых патэнцыйных неплацельшчыкаў? Так што супрацоўнікам кампэтэнтных органаў раім неадкладна скараціць штат і ў тэрміновым парадку правесьці амністыю ●



## *Дзіцячы пакой міліцыі*

Магілёўская міліцыя нарэшце вырашыла праблему падлеткавай злачыннасьці. Раней, каб падаць зводку аб новых дзецях, за якімі трэба «вока ды вока», участковым і супрацоўнікам дзіцячага пакою міліцыі трэба было некалькі дзён лазіць па падвалах у пошуках парушальнікаў выхаваўчых нормаў. Зараз жа на ўлік у міліцыю як злосныя парушальнікі, былі пастаўленыя каля 20 актывістаў арганізацыяў «Малады Фронт» і «ЗУБР». Калі і далей у праваахоўных органаў усё пройдзе нармалёва, зь цягам часу можна будзе арганізаваць спэцыяльныя выхаваўчыя ўстановы накшталт савецкіх дамоў для дзяцей, чые бацькі былі «ворагамі народу», ці лягеры працоўнага выхаваньня падлеткаў. Гарэзы заўсёды будуць пад наглядам ды й радзіме ад іх карысьць будзе ●



Вось яны, патэнцыйныя сябры апазыцыйных тусовак

**Міхаіл Зошчанка**

## *ГУльні патрыЁтаў*

# Менск возьмуць на пяты дзень

## *Знайшлося «Моцнае рашэньне» праблемы беларускай дыктатуры*

Пакуль большасьць грамадзянаў Беларусі лічаць варон, пад самым іхным шнобелем наш стратэгічны вораг зацеяў гульні з бразгатаньнем зброяй і паказваньнем кукішаў у бок беларускай заходняй мяжы.

З 1 па 15 сакавіка ў Эўропе былі арганізаваныя буйнейшыя за апошнія 20 гадоў вайсковыя вучэньні NATO Strong Resolve-2002 («Моцнае рашэньне-2002»), што разгарнуліся на тэрыторыі Нарвэгіі і Польшчы. Галоўная мэта вучэньняў, у якіх бярэ ўдзел каля 30 тысячаў вайскоўцаў, – адпрацоўка здольнасьці NATO весьці буйнамаштабныя ваенныя апэрацыі падчас двух асобных і адначасовых крызысаў у розных рэгіёнах Эўропы. Дарэчы, у гэтай зарніцы ўзялі ўдзел і наваяўленыя сябры Паўночна-атлянтычнага альянсу зь ліку былых саюзных рэспублік такіх, як Эстонія, Латвія, Літва, Украіна і нават Узбэкістан.

Мяркуючы па геаграфіі манэўраў, ня цяжка сабе ўявіць, каго натаўскія генэралы разглядаюць у якасьці верагоднага праціўніка – гэта Расея і Беларусь. Аднак, калі Расея выступае ў ролі агрэсара, які вырашыў папаласкаць свае кірзачы ў нарвэскіх ф'ёрдах, зусім іншы сцэнар баявых дзеяньняў падрыхтаваны для нашай міралюбнай краіны.

«Польская частка» Strong Resolve-2002 негалосна спраектаваная на разгортваньне вайсковай апэрацыі непасрэдна на тэрыторыі Беларусі, дзе, паводле натаўскай легенды, успыхнулі масавыя народныя беспарадкі, выкліканыя незадаволенасьцю палітыкай ураду. Каб пагасіць агмень гвалту, NATO ўводзіць свае міратворчыя сілы ў Беларусь і бліц-крыгам завяршае сваю гуманітарную акцыю. Як паведамілі кампэтэнтныя крыніцы *Новых Известий* у Генштабе Узброеных сілаў Расеі, беларускія вайскоўцы праз сваіх штырліцаў нават здабылі інфармацыю, што на пяты дзень «Моцнага рашэньня» міратворчыя дзеяньні NATO разгортваюцца непасрэдна ў Менску.

Ня слаба, згадзіцеся. Лішне казаць, што сцэнар натаўскіх вучэньняў нечым нагадвае гітлераўскі плян «Барбароса». Усплывае ў памяці й яшчэ адна «капірка» – гуманітарная акцыя NATO ў Косава, дзе канфлікт паміж жыхарамі краю – сэрбамі й албанцамі – быў грацыёзна выкарыстаны натаўскімі стратэгамі і даў падставу ўмяшацца ў міжэтнічныя разборкі пад прыкрыцьцём спыненьня генацыду албанцаў.

Такі варыянт – блакітная мара нашых «дэмакратаў». Шкада толькі, што міжэтнічны канфлікт у Беларусі пакуль што мала верагодны, таму кволая апазыцыя мусіць узяць на сябе сур'ёзную, калі не сказаць фантастычную, задачу: запаліць у Беларусі агонь грамадзянскай вайны й арганізаваць масакру «лукашыстам». Тыя, калі ня лохі, адкажуць масавай разьнёй «дэмакратам», а тут бах – узбэцкі дэсант пад Мар'інай Горкай, і праз нейкі тыдзень пра рэжым ні слыху, ні дыху, а Лукашэнка сустракаецца зь Мілошавічам у Гаазе. Верыце? Мы таксама не.

Існуе аднак больш рэалістычны сцэнар правядзеньня ў жыцьцё адтрэніраванага «Моцнага рашэньня». Калі няма сілёнак стварыць дастатковую колькасьць цывільных трупаў для запрашэньня міратворчых «марскіх коцікаў», апазыцыя іх можа наляпіць таньнейшым шляхам: дэзынфармацыяй. Некалі менавіта гэткім чынам румынская апазыцыя з дапамогай добрых дзядзек з Захаду расстраляла дыктатара Чаўшэску. У той самы момант, калі ўрадавыя войскі пачыналі наводзіць парадак, а бунты патроху заціхалі, пад горадам Тэмішоара «выпадкова» знайшлі масавыя пахаваньні «ахвяраў рэжыму». Трупы імгненна растыражавалі па ўсіх сусьветных тэлеканалах, а праз радыёстанцыі навіна хутка разьляцелася па ўсёй Румыніі. Вынік – выбух народнага гневу і рэвалюцыя. Як аказалася потым, масавыя ахвяры былі... бутафорскімі. Проста сьвежых мерцьвякоў навезьлі з розных могілак, каб запалохаць «цывілізаваны сьвет» «камуністычнымі зьверствамі». Фокус удаўся. Тады нават не спатрэбілася ўводзіць міратворцаў, ды й час у далёкім 1989-м ня той быў. Зараз жа беларускай апазыцыі на натаўскую дапамогу разьлічваць лягчэй.

Але ня гэтак страшны узбэцка-эстонскі спэцназ, як яго малююць. Наш доблесны Генэралітэт прадугледзеў варыянт вайсковай інтэрвэнцыі, што было прадэманстравана на вучэньнях «Нёман 2001»: войскі «чырвонай рэспублікі» (па легендзе, РБ) пасьпяхова нацягнулі на штых «сіняга» агрэсара (NATO). Так што, таварышы, NO PASARAN! ●

**Пауль Зорге**

## Унівэрсальны партрэт злачынцы




Напярэдадні дня міліцыі ў прэсе зьявіўся рапарт МУС аб злачыннасьці ў краіне. На яго аснове ахоўнікі правапарадку склалі партрэт сярэднестатыстычнага беларускага злачынцу. Напрыклад, гэта мужчына (большасьць злачынстваў зьдзяйсьняюцца пераважна мужчынамі), і беспрацоўны (48% злачынстваў выпадаюць на долю беспрацоўных), у большасьці выпадкаў – выхадзец з Расеі. Наша парада міліцыі: для большай дакладнасьці партрэту можна было б вылічыць, які сярод беларускіх урак працэнт блакітна-, зялёна- і каравокіх, а таксама памераць іхныя ногі, вушы і геніталіі. Гэта дазволіла б нашым праваахоўным органам яшчэ лягчэй пазнаваць сваіх патэнцыйных кліентаў і праводзіць адпаведную прафіляктыку ●

## *ГрабЁж*

### «Вясна» ўсё не прыходзіць...

У той час, калі хлопцы, што вось ужо 6 месяц абараняюць Курапаты ад дарожных рабочых, ставячы рэкорд Кнігі Гінэсу па працяжнасьці ўтрыманьня лягеру, усё астатняе апазыцыйнае грамадзтва толькі робіць выгляд, што салідарызуецца з курапацкімі жыхарамі. Чарговы скандал разразіўся пасьля таго, як кіраўніцтва праваабарончага цэнтру «Вясна», які нібыта займаецца матэрыяльным бокам падтрымкі абароны Курапатаў, адмовілася аплаціць лекі і бальнічныя лісты чатыром хлапцам, што хварэлі на грып. Яшчэ аднаму хлапцу не аплацілі традыцыйныя суткі. Дык куды ж ідуць грошы, спадар Бяляцкі? Чытачам мы абяцаем разабрацца з гэтым пытаньнем і правесьці рэдакцыйнае расьсьледаваньне.









# З гімну словаў

*Ведайце!..*
*Зранку я,*
*Калі чэсныя людзі ўсе сьпяць*
*ці робяць свае сусі-пусі,*
*Не магу, не хачу*
*Сябе затрымаць*
*На балконе*
*сьпяваць ГІМН*
*Дарагой Беларусі!*

*Ярыла Пшанічны*

**Песьня – душа народу**. Відавочна, што аўтар крылатага выразу ня меў на ўвазе апошні шлягер ЛЕПРИКОНСОВ ці трэлі Міхалка пра тое, як любоў павярнулася да яго задам. Калі народ ня хворы на цяжкую форму мультыплікацыі асобы, размова можа йсьці толькі пра адну Песьню – **Дзяржаўны Гімн** краіны. Які гімн – гэткая й мэнтальнасьць нацыі, лічыць, напэўна, Прэзыдэнт. Але вось праблема. Гімну ж у нас... няма. А як народ без душы?! Каб нарэшце канчаткова вызначыць духоўную канстанту сучаснага беларуса, урадам быў абвешчаны **конкурс** на лепшыя музыку і тэкст гімну Рэспублікі Беларусі.

Нарэшце, **10 сакавіка 2002** году спыніўся прыём конкурсных праектаў. Пачынаецца самае хвалюючае: **выбар лепшага**. Дзяржаўным дэгустатарам прыйдзеца знайсьці менавіта той матыў, які закране за жывое глыбінныя структуры псыхікі кожнага грамадзяніна РБ, ад трактарыста Ваські Кавалёнчыка з калгасу «Запаветы Ільіча» да элітарных Вінцука Вячоркі і Элеаноры Язерскай. **Вытокі беларускага гімнагенэзу** трэба шукаць у самой прыродзе гэтага песеннага жанру. У часы сівой мінуўшчыны, гімн – гэта песьня альбо паэма, якая служыла ўхваленьню багоў ці герояў падчас спраўленьня культавых абрадаў.

Карані гімнаў вэртыкальна растуць ад **крывавых ахвярапрынашэньняў антычнасьці**. Тагачасныя цырымоніі закланьня быдла і рабоў абавязкова суправаджаліся **заклікам да Бога**. Гэтая апэляцыя мела форму паэмы, якая выконвалася пад акампанямэнт адным сьпеваком альбо хорам. Далёкі продак будучага гімну Рэспублікі Беларусь распавядаў пра гераічныя падзеі міталягічнага мінулага, а танцы і ахвяраваньні служылі іхнаму ўзгадваньню і паўтарэньню. У сваёй «Адысэі» Гамэр піша пра непарыўную сувязь сьпеваў, рытуальных танцаў і ахвяравальнага піру. Калі верыць сьляпому грэку, сьпявак лічыўся роўным багам, а праслухоўваньне гімну дазваляла кожнаму дасягнуць «эўфрасінэ» – пачуцьця сьвятасьці. Кажучы па-калхознаму, каб прымусіць цывілізаваных грамадзянаў апантана скідваць у каньёны сотні ўласна гадаваных парсюкоў і прыслугу, трэба было ўвесьці іх у адпаведны псыхічны стан. (Курт Хюбнэр. *Истина мифа* – М.: 1996).

Што ёсьць сучасны нацыянальны гімн? Тая ж песьня ці лірычная паэма, якая ўхваляе душу народу, дзяржаўную ідэалёгію і суправаджае афіцыйныя цырымоніі. Дзяржаўны гімн – гэта ўсьпяваньне міту аб нацыі, а пачуцьцё патрыятычнага трэпету, што выклікае ягоныя праслухоўваньне і сьпевы – гэта паганскае адчуваньне капуляцыі з **духам Дзяржавы**, у

## Мы – беларусы...

### Гімн маргінала

**Напрацягу ўсёй савецкай эпохі гэты гімн уплываў на фармаваньне ўсяго беларускага грамадзтва, нават да сёньняшняга часу, калі закладзены ў ім музычны код дасюль гучыць з цэнтральнай радыёкропкі штораніцы і штоапоўначы. Менавіта адсюль варта выводзіць вытокі рэагаваньня шараговага абывацеля на зьнешнія соцыя-культурныя раздражняльнікі. Непарыўная пупавіна, якая зьвязвае сёньняшні беларускі электарат, што жыве мітамі савецкай эпохі, з існуючай уладай, якая гэтыя самыя міты эксплюатуе, зьяўляецца гарантам стабільнасьці цяперашняга палітычнага рэжыму. Спрабуючы зьмяніць дадзены код, Лукашэнка рызыкуе парушыць гэтую стабільнасьць.**




Мы – беларусы, з братняю Русьсю
Разам **шукалі к шчасьцю дарог**




У **бітвах** за волю, у бітвах за долю
Зь ёй здабылі мы сьцяг перамог




**Нас аб'яднала Леніна імя**,
Партыя к шчасьцю вядзе нас у паход

## Мы выйдзем шчыльнымі радамі...




Мы **выйдзем** шчыльнымі радамі
На **вольны** родны наш **прастор.**

Хай воля вечна будзе з намі,
А **гвалту** мы **дамо** адпор.

### Гімн хіпі

**Песьня, што яшчэ называецца «Ваяцкі марш» і зьяўлялася гімнам БНР, насамрэч нясе ў сабе зарад пакорлівасьці і пацыфізму, не без уплыву моцных псыхадэлікаў. З гэтай прычыны на першы погляд баявы і задорны тэкст гімну робіць на беларусаў маральна-расслабляльнае ўзьдзеяньне. Тут і варта было б шукаць прычыны абыякавасьці беларускага нацыянальнага авангарду да лёсу Бацькаўшчыны.**




Няхай жыве магутны, сьмелы
Наш **беларускі** родны **дух.**

Шчандар наш бел-чырвона-белы,
**Пакрый** сабой народны **рух.**

# Гімн ня выкінеш!

экстазе якога нацыяналісты і патрыёты гатовыя ахвяраваць сабой і сваімі бліжнімі.

Як бачым, гімн ня толькі адлюстроўвае мэнталітэт пэўнага народу, але і сам спрыяе ягонаму фармаваньню, сваімі матывамі, тэкстам і рэгулярнай паўтаральнасьцю (сёньня ў асноўным, праз радыёкропкі і тэлетрансляцыі цырымоніяў) непазьбежна ўзьдзейнічаючы на эмацыянальны стан слухача. Фактычна, клясычныя дзяржаўныя гімны ўяўляюць сабой прымітыўныя формы **маніпуляцыі сьвядомасьцю**. У гэтым яны роднасныя навукова распрацаваным мэтадам «музыкатэрапіі» і «гукавага маркетынгу».

Як арыгінальная форма лячэньня псыхічных хваробаў, музыка і сьпевы інтуітыўна выкарыстоўваліся здаўна. Гіпакрат ахрысьціў музыку vis medicatrix naturae, па-нашаму – цалебнай сілай прыроды. Сібірскія шаманы арганізоўвалі магічныя сьпевы, мэтай якіх было дапамагчы хвораму «знайсьці сваю згубленую душу». У пачатку мінулага стагодзьдзя, у Нэапалі псіхушкі ўпершыню пачалі наймаць аркестры для лячэньня нэрвовых хваробаў. У Цюрыху створаны нават спэцыялізаваны Інстытут музыкатэрапіі, які распрацаваў і запатэнтаваў складаныя тэхналёгіі лячэньня пры дапамозе музыкі і сьпеваў.

Да гімнаў узыходзіць і **гукавы маркетынг**, які зьявіўся ў 1950-я гады пры фінансаваных буйнымі карпарацыямі інстытутах «вывучэньня матывацыі». Мэта: навучыцца ўзьдзейнічаць на падсьвядомасьць спажыўца пры дапамозе тых ці іншых гукаў. Напрыклад, француская сетка крамаў Fnac выкарыстоўвае тэхнікі гукавай маніпуляцыі для прыцягненьня юных кліентаў. Каб затрымаць дзяцей каля таго ці іншага аддзелу, спэцыяльная музыка транслюецца ў адпаведнасьці з прыродай і характарам («душой») кожнай цацкі, да якой падыходзіць малакасос. Гэтым у дзіцяці выклікаецца пачуцьцё, падобнае да міталягічнага «эўфрасінэ», за якім павінен ісьці рытуал ахвярапрынашэньня (раскашэльваньня бацькоў).

Гук – магутны стымулятар пакупкі. У фірме Brime Technologies, што спэцыялізуецца на дасьледаваньнях у сфэры «сэнсарнага маркетынгу», кожны новы прадукт тэстуецца экспэртамі, якіх завуць «залатыя вушы». Іхная функцыя: напрыклад, параўноўваць гукі новых прадуктаў (звон, шуршаньне, хрумст, клацаньне, чмоканьне, бульканьне і г.д.) з сынтэзаванымі гукамі, якія выклікаюць традыцыйна пазытыўныя пачуцьці і асацыяцыі (бясьпекі, дынамізму, мадэрновасьці, люксу і г.д.). Калі спажывец рэгулярна чуе правільна падабраныя гукі, ягоныя лакатары падсьвядома настройваюцца на патрэбнае рэагаваньне на раздражняльнік.

Нарэшце, акрамя ўласна гукаў і мэлёдыяў, асы гукавага маркетынгу выкарыстоўваюць такі важны інструмэнт узьдзеяньня як песеннае слова. Разуменьне тэксту кожнай песьні адбываецца ў нас ня столькі на ўзроўні яўнага, экспліцытнага значэньня, колькі на паверсе эмоцыяў і асацыяцыяў, што выклікаюць тыя ці іншыя словы і выразы, уступаючы ў кантакт з нашай падсьвядомасьцю. На гэтым, напрыклад, будуецца тэхніка выкарыстаньня **сублімінальных вобразаў**, у тых жа супэрмаркетах. У многіх унівэрмагах практыкуецца фонавая трансляцыя песень, у тэксты якіх як бы між іншым уплятаюцца па-рознаму сфармуляваныя заклікі кшталту: «Не крадзі!», «Сьмялей рабі свой выбар!», «Не шкадуй ні аб чым!», «Не вагайся!» і г.д., на якія спажыўцы адпаведна рэагуюць (хто больш – хто менш), нават не заўважаючы гэтага.

Што з усяго вышэй сказанага вынікае? А тое, што якасны нацыянальны гімн ня можа абысьціся без дасягненьняў сучасных мэдыцыны, псыхалёгіі і лінгвістыкі. Беларускі гімн павінен эфэктыўна выконваць сваю пэдагагічную функцыю грамадзянскага і патрыятычнага выхаваньня нацыі. А як абстаіць справа з прэтэндэнтамі на тэкст будучага гімну? Каб ня быць галаслоўнымі, прапануем увазе чытача **кантэнт-аналіз** найбольш вядомых тэкстаў-кандыдатаў. Ад вынікаў незалежнай экспэртызы кроў стыне ў артэрыях. Калі адзін з прааналізаваных нашымі спэцыялістамі кулюарных фаварытаў стане чэмпіёнам конкурсу, усёй камісіі можна будзе сьмела інкрымінаваць артыкул за наўмыснае нанясеньне шкоды псыхічнаму здароўю грамадзян.Час, каб не дапусьціць духоўнага этнацыду, яшчэ ёсьць...

**Сяржук Міхалкоў,**
дзіцячы паэт і гімнаплёт

## Пагоня

### Гімн параноіка

**Верш складаўся М.Багдановічам у стане глыбокага трызьненьня і высокай тэмпэратуры. Праз увесь эмацыйны кантэкст гімну чырвонай ніткай праходзіць адбітак маніі перасьледу, выкліканай нэўрозам навязьлівага стану. Выканаўцу або слухача гімну апаноўвае прыступ панічнага жаху, падобны сваім патагенэзам да дэліырыюм трэнум (альбо па-просту белай гарачкі). У выніку беларускі народ апынаецца ў зацяжной дэпрэсіі з суіцыдальнымі схільнасьцямі.**




Толькі ў сэрцы **трывожным** пачую
За краіну радзімую **жах**.




Успомню вострую браму сьвятую
І ваякаў **на грозных канях**.




У белай пене **праносяцца коні,**
Мкнуцца, рвуцца і цяжка хрыпяць...

## Магутны Божа

### Гімн эзатэрыка

**Напісаны падчас нямецкай акупацыі, калі ў Беларусі запанаваў арыйскі культ звышчалавека і паганскіх ідалаў кшталту Одзіна. Выкананьне гімну пагружае слухачоў у астральны эгрэгар, цалкам адкрываючы ўсе іхныя чакры і прымушаючы іх цалкам аддаваць і душу, і цела, і карму дзеля арэальнай Мары здабыць вечнае шчасьце і вечны спакой у Валгале.**




Магутны Божа, **уладар сусьветаў**,
Вялікіх сонцаў і сэрц малых.




Над Беларусяй, ціхай і ветлай,
Раскінь **праменьні** свае хвалы.




Дай **спор** у працы, **будзёнай,** шэрай
На лусту хлеба, на родны край...

### Гімн нэалібэрала

**Вядомы большасьці беларусаў па пазыўных беларускага радыё. Кампазыцыя выклікае ўстойлівую асацыяцыю з працай, эксплюатацыяй і прымусовым распарадкам дня. Музыка падсьвядома стымулюе максымальную самааддачу кожнага грамадзяніна на карысьць няўтрымнай індустрыялізацыі, мэліярацыі і прамысловага забруджваньня навакольнага асяродзьдзя. Чалавек ператвараецца ў біяробата, вінціка сыстэмы, аднамерную істоту, якая выконвае сваю вузкую вызначаную функцыю. Карпаратыўны зомбі – вось будучая роля, прыгатаваная для беларусаў.**

## Радзіма, мая дарагая...




Радзіма мая **дарагая,**
Ты ў шчасьці, спакоі жыві
Я сэрцам табе прысягаю
У шчырай **сыноўняй** любві




На рэках шырокіх і **нівах**
Заводы будуюць наўсьцяж




Народ наш працуе руплівы
І край **уздымаецца** наш.

# Новыя Ланцэлоты

## Хто ж яны, рыцары XXI стагодзьдзя?

Адгрымелі пацешныя рыцарскія паядынкі на Камсамольскім возеры. Адмахалі пацешнымі мячамі. Адсьпявалі пацешны рыцарскія песьнякі. Адбухалі. Разьехаліся па сваіх замках і кляштарах у чаканьні новай імпрэзы. Рыцары. Хто яны? Дзе яны? Яны паўсюль. У гарадах і ў вёсках. Бо рыцарства – гэта стан духу, а не графа ў пашпарце. Ёсьць свой рыцар і ў Бабруйску, а Бабруйск заўсёды славіўся неардынарнымі асобамі. Невыпадкова дзеці лейтэнанта Шмідта так хацелі ў Бабруйск.

Эдзік Янчэўскі (ня блытаць з Эдзікам Тарлецкім і Севам Янчэўскім), натхняльнік рыцарскага клюбу, стаў дэмакратам амаль з моманту распаду Савецкага Саюзу. Дакладна ў той час, калі ў Беларусі пачаліся халяўныя сэмінары, дзе можна было пад'есьці, пабухаць і яшчэ атрымаць грошы за праезд. Калі ж ехаць стопам, а квіток выпрасіць на аўтастанцыі – прыбытак астранамічны! Можна было жыць і існаваць. І Эдзік існаваў! Ён арганізаваў рыцарскі клюб «Белы Арол» (Ня блытаць з гарэлкай ці вядомым папсовым гуртом! «Белы Арол» – гэта легендарны герб Бабруйску, згублены падчас маскальскай акупацыі і гіпатэтычна знойдзены Эдзікам). Шукаў жалеза на памыйцы, каб скаваць сабе кальчугу.

Да рыцарскага турніру ў Навагарадку 2000 году Эдзік рыхтаваўся адмыслова. Хадзілі чуткі, што ён будзе біцца на дуэлі з рыцарамі з клюбу «Белы Асёл», зь якімі ў яго асабістыя рахункі. На зьдзіўленьне бабруйчан за два тыдні да ўрачыстасьцяў Эдзік зьявіўся з падбітым вокам і перавязанай рукой. Пайшла плётка, што рыцар зваліўся з багатырскага каня. А яшчэ – што пабіўся з шоблай эрэнешнікаў і выгнаў іх з Бабруйску (што верагодна – у Бабруйску няма ніводнага баркашоўца). Высьветліў таямніцу супрацоўнік міліцыі капітан Пінчук. Эдзік, як аказалася пабіўся зь міліцыянтамі, калі закаціў дэбош на галоўным паштамце. Як сапраўдны Дон Кіхот зь ветракамі, Эдзік біўся ў шкло тэлефонных кабінак. Калі яго круцілі, вырываўся і крычаў, што яго БНФ усё роўна выкупіць. Так гэта ці не? Рыцара голымі рукамі ня возьмеш! ●

**Вальтэр Скот,**
пісьменьнік

## СВАБОДА@БЕЗ.ЦЯБЕ

КРАЯВІДЫ НА ВОЛЬНЫМ ПАВЕТРЫ

**Прапануем Вашай увазе зборнік тэкстаў, прысьвечаных сацыяльнага, культурнага й мастацкаму супрацiву.**

**У межах праекту прапануем таксама відэафільмы:**
**1. Шостае сонца. Паўстаньне індзейцаў майя ў Чыяпасе.**
**2. Маёр або рэвалюцыя гномікаў. Памаранчовая Альтэрнатыва.**
**3. Бялградзкі марш: «84 дні хаджэньня», «Студзеньская рака», «Гукі Сэрбіі».**

**Цікаўных просім зьвяртацца праз мэйл: pauluk@tut.by**

*СьвЕт кнІгі*

# Незалежная Рэспубліка Інтэрнэт

Здаецца, чуткі пра хуткую сьмерць беларускай літаратуры і мовы былі крыху перабольшаныя. На сайтах пад адрэсай knihi.com. можна спаткаць больш беларускамоўнай публікі, чым на канцэртах Алеся Камоцкага і на прэзэнтацыях у Беларускім Калегіюме разам узятых. Нават В.Акудовіч, які яшчэ некалькі год таму прадказваў беларускай літаратуры сьмерць ад кампутарных тэхналёгіяў, дазволіў вывесіць свой тэкст на адной са старонак беларускага кнігаразбору і атрымаў некалькі водгукаў. Няма сэнсу пералічваць усе плюсы ад выкарыстаньня сучасных інтэрнэт-тэхналёгіяў у параўнаньні з традыцыйнымі формамі існаваньня літаратуры як жанру – кніжнага і часопіснага, і жывых выступаў перад аматарамі: аўтары атрымліваюць таксама амаль непасрэдную сувязь з чытачамі, выступы абсалютна ананімныя, таму ўдзельнікі кампутарных канфэрэнцыяў ня стрымліваюць сваіх эмоцыяў аніякай цэнзурай, што цалкам дае магчымасьць рэалізаваць прынцып свабоды слова і друку.

Мінус, гэта безумоўна тое, што за кошт апэратыўнасьці падае ўзровень інфармацыі, якую падаюць на сайт – але за апошняе дзесяцігодзьдзе нават найбольш патрабавальным чытачам удалося адаптавацца да радыкальнай перамены эстэтычнай парадыгмы ў краіне. Адзін з самых буйных форумаў – на кнігаразборы і, безумоўна, важная падзея ў культурным жыцьці краіны – літаратурная прэмія «Гліняны Вялес», урачыстае ўручэньне якой адбудзецца 29 сакавіка ў Полацку. І хаця апошняе слова пра лёс прэміі застаецца за кампэтэнтнымі літаратурнымі крытыкамі, кандыдатаў вылучалі чытачы – наведнікі форуму. Сярод кандыдатаў, між іншымі, і кнігі Вішнёва і Жыбуля – «новае пакаленьне» юзэраў зрабіла свой няпросты выбар. «Старое» пакаленьне – тэвээлаўцы – старэйшае за новае можа на нейкія дзесяць-пятнаццаць год апынулася па-за мяжой, якую акрэсьлілі інфармацыйныя тэхналёгіі. Тэвээлаўцы сьцьвярджаюць, што толькі яны займаюцца сапраўднай літаратурай, а рэшта – графаманства і плягіятарства. А.Аркуш, які вядзе «гліняны» форум, канстатуе, што ў наш інфармацыйны век недарэчна развкажаць пра графаманства, галоўнае – прысутнасьць у СМІ. Можна разважаць пра тое, што важнасьць такой падзеі, як прэмія, залежыць ад яе фінансавай падтрымкі, што, маўляў, літаратурная прэмія значна адстае ад «Дажынак» і «Рок-каранацыі», але фактам застаецца тое, што літаратурная гульня ператвараецца ў больш інтэрактыўную. Важнай падзеяй у жыцьці форуму стала абураная рэпліка Андрэя Дынька, галоўнага рэдактара «рэспэктабэльнай правай газэты», які нібыта не вылучаў на «Глінянага Вялеса» «Турэмны дзёньнік» С.Адамовіча. Рэдактару «элітнай» газэты дасталася пераважна за адсутнасьць пачуцьця гумару, за няздольнасьць усталяваць нармальны кірылічны шрыфт на сваёй скрыні і няздольнасьць уласную скрыню кантраляваць. Бо інтэрнэт не прызнае герархіяў, тут кожны можа адчыніць сваю старонку і адчуць сябе там Галоўным Рэдактарам.

Трэба адзначыць, што да вышэй узгаданай «дэмакратычнасьці» і-нэту трэба падыходзіць з доляй пэўнай асьцярожнасьці. Сучасны стан тэхнікі дазваляе, каб адзін-два адмарозкі завалілі электронную прастору сваімі мэсэджамі і стварылі ілюзію натоўпу шалеючых фанатаў (фанатак). Пацьверджаньнем гэтаму стала адкрыцьцё «фан-клюбу Зьміцера Вішнёва» — літаратурнага махляра сусьветнага маштабу, які не выклікае нічога акрамя раздражненьня ў звычайных людзей, але страшэнна падабаецца клінічным вычварэнцам. Але гэта й добра – тыя, хто пэцкаў бы сьцены прызнаньнямі ў любові да генюша, запаўняюць тым самым тэкстам электронную прастору. Таму ў пэўным сэнсе інтэрнэт можа паслужыць псыхатэрапэўтычным сродкам як для вэрбальных эксгібіцыяністаў, гатовых друкавацца дзе заўгодна, хоць у *Нігілі*, абы ўзялі, так і для паміраючай культуры, зьнясіленай ад недахопу інвэстыцыяў ад дзяржавы, нядольнай падтрымаць хаця б пару-тройку літаратурных часопісаў. Інтэрнэтаўскі форум, урэшце – гэта сьвяточны баль Папялушкі, якая ў рэальным жыцьці – пэтэвэшнік Вова, а на казачным форуме ў электронным сьвеце – Эсмэральда, блішчыць даўціпнымі жартамі і разьбіраецца ў сучасным мастацтве ●

**Д. Коўпланд**

*КутОк спажыўцА*

# Купляйце беларускае

**Часам чытачы нашай газэты сутыкаюцца зь невядомымі для іх прадуктамі й нярэдка губляюцца, ня ведаючы, як сябе паводзіць. Каб надалей пазьбегнуць канфузу, «Навінкі» прапануюць чытачу компас у моры спажывецкіх тавараў. Нашы экспэрты дапамогуць вам не заблукаць у багацьці паліцаў беларускіх крамаў. Гэтым разам пра напоі.**



**ВАСІЛІНА** – натуральнае пладова-ягаднае віно, выробленае зь лепшай антонаўкі позьніх гатункаў і сьліваў з палеткаў калгасу «Зара камунізму» ўраджаю 2001 году. Колер ад сьветла-залацістага да сьветла-зялёнага. Букет з тонкім водарам яблыкаў, адценены ледзь прыкметным смакам цьвілі. Падаваць да плаўленага сырка «Аршанскі». Выдатна пасуе да рамантычнай вячэры на траіх макаронамі хуткага прыгатаваньня «Роллтон».



**РАГНЕДА** – вінны напой вытворчасьці Весялоўскага крухмальнага заводу (Chateau de Viesialova) Барысаўскага раёну Менскай вобласьці. Лёгкі купаж гідролізнага сьпірту й араматычных эсэнцыяў. Шляхетны бурачковы колер. Спажываць лепей з плястмасавых аднаразовых кубачкаў, каб падкрэсьліць выразны, запамінальны букет. Сур'ёзныя аматары «Рагнеды» аддаюць перавагу цукру-рафінаду як найлепшаму закусону да гэтага напою.



**ПАНСКІ ДОМ** – гарэлка вытворчасьці лікёра-гарэлачнага заводу Мала-Мажэйкаўскага саўгасу Лідзкага раёну Гарадзенскай вобласьці. Выраблена паводле старажытнай рэцэптуры прыгонных сялянаў князёў Радзівілаў. Вытрымка ад трох месяцаў (ГВ) да паўгода (ГВН). Напой для сапраўдных мачо. Бліжэйшы сваяк – палёная мэксыканская тэкіла. Ляўрэат (залаты мэдаль) конкурсу слабаалькагольных напояў (група ад 40 да 55 градусаў) сярод камбайнэраў вёскі Дзябілавічы ў 2000 годзе. Падаваць у мэталічным карцы да лусткі чорнага хлебу й нясьпелага яблыка ●

**З.А. Булдон,**
экспэрт-дэгустатар

*Рэдакцыя запрашае прыватных распаўсюднікаў да супрацоўніцтва на выгодных умовах.*
*Тэл. (017) 2208377, з 14⁰⁰ да 16⁰⁰*

# Прыгоды бравага міратворца Швэйка падчас гуманітарнай апэрацыі ў Іраку

